Веснік ПРАВААБАРОНЧЫ

№4 04.2012

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ


**З ВЯЛІКАДНЕМ, ВІКТАР ПАЎЛАВІЧ!**



БАРАНАВІЧАНЕ ПАВІНШАВАЛІ БАЦЬКУ МІКАЛАЯ СТАТКЕВІЧА

СТАР. 2

**ПРАДПРЫМАЛЬНІК МІКАЛАЙ ЧАРНАВУС**

СПРОБУЕ АДСТАЯЦЬ СПРАВЯДЛІВЫЯ ВЫБАРЫ ПРАЗ СУД



СТАР. 3

# “ВЯСНА” АДЗНАЧАЕ 16-Ю ГАДАВІНУ ДЗЕЙНАСЦІ

16 год таму, пасля брутальных затрыманняў падчас “Чарнобыльскага Шляху”, пачыналася праца групы людзей, якая занялася зборам і распаўсюдам інфармацыі пра затрыманых, а таксама спрабавала аказаць ім матэрыяльную дапамогу. Так узнікла арганізацыя “Вясна-96”, цэнтральным накірункам працы якой стала дапамога ахвярам палітычных рэпрэсій і інфармаванне грамадскасці пра гэтыя рэпрэсіі.

Пра гісторыю стварэння Праваабарончага цэнтра “Вясна” яе заснавальнік і нязменны кіраўнік Алесь Бяляцкі распавядае ў інтэрвью да кнігі “Наша Вясна”:

“Вясна” пачыналася тады, калі цэлую вясну 96-га года ішлі масавыя акцыі, якія адбываліся з розных прычынаў. У красавіку – у сувязі з так званай Саюзнай дамовай з Расіяй, якую Лукашэнка збіраўся заключаць з Ельцыным. Перад гэтым адзначалася 15 сакавіка – Дзень Канстытуцыі, затым 25 сакавіка — Дзень Волі, калі прайшла вялікая дэманстрацыя па праспекце Незалежнасці да Опернага тэатру і будынку Белтэлерадыёкампаніі на Чырвонай, дзе патрабавалі прамога эфіру, бо тады ўжо былі праблемы з інфармацыяй і яе распаўсюдам. Тады была ўзбуджана крымінальная справа за парушэнне парадку, але яна нічым не скончылася. А 26 красавіка на плошчы Якуба Коласа сабралася 40-50 тысяч чалавек, якія пайшлі затым па праспекце Незалежнасці да цырка і па вуліцы Багдановіча да Палацу спорта, дзе былі праведзены мітынгі. Падчас гэтай дэманстрацыі міліцыя перакрыла дарогу машынамі, былі выстаўлены кардоны АМАПу, і ўсё гэта суправаджалася жорсткімі сутычкамі з людзьмі. У той дзень было арыштавана больш за 200 чалавек, узбуджана чарговая крымінальная справа. У СІЗА апынуліся Юры Хадыка і Вячаслаў Сіўчык як заяўляльнікі акцыі. Востра ўзнікла пытанне тэрміновай дапамогі ў зборы інфармацыі і давядзенні яе да сваякоў затрыманых, бо паніка тады была нават большая, чым мы бачылі ў 2006-м і ў 2010-м гадах падчас падобных масавых арыштаў. Проста тады гэта было ўпершыню. Я хачу падкрэсліць, што да гэтага акцыі, за выключэннем “Дзядоў” 1988 года, у нас фактычна не разганяліся. Так, былі затрыманні, быў нейкі млявы пераслед, але так масава, нахабна і жорстка, як гэта адбылося ў красавіку 96-га года – такога не было. Мне падаецца, менавіта тады Лукашэнка вырашыў жорсткасцю сілавых дзеянняў спыніць масавыя акцыі.

У гэтай сітуацыі ўзнікла група людзей, якая

*Працяг на ст. 2.*



«Вясноўцы» падчас акцыі супраць палітычных знікненняў каля КДБ у 2000 г. (Злева направа: В. Стэфановіч, А.Бяляцкі, Т. Рэвяка і А. Лапцёнак)

## Недавер жыхароў Баранавіцкага раёна да міліцыі за год павялічыўся ўдвая




Колькасць жыхароў Баранавіцкага раёна, якія не давяраюць мясцовай міліцыі, за год стала ўдвая больш: з 5,3% да 11,4%. Пра гэта паведаміла 19 красавіка 2012г. мясцовая недзяржаўная газета “Intex-press”, спасылаючыся на апытанне, якое было праведзена Баранавіцкім РАУС у першым квартале гэтага года. Адначасова паведамляецца, што зменшылася колькасць тых людзей, якія гатовы аказаць дапамогу супрацоўнікам праваахоўных органаў – з 72% у першым квартале 2011 года да 64% у гэтым годзе. А вось колькасць грамадзян, якія цалкам давяраюць раённай міліцыі, засталася практычна нязменнай.

Такім чынам, вынікі грамадскага апытання сведчаць аб тым, што меркаванне жыхароў Баранавіцкага раёна аб міліцыі пагоршылася ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

Праваабаронца Сяргей Гоўша тлумачыць гэтую з’яву тым, што многія міліцыянеры маюць невысокі прафесіяналізм і нізкую прававую культуру. Супрацоўнікі міліцыі часта кіруюцца не законамі, а загадамі свайго начальства, таму і стаўленне да іх мяняецца ў горшы бок.

Віктар Смоўж

## Грамадскія актывісты павіншавалі Віктара статкевіча бацьку экс-кандыдата на прэзідэнта Мікалая Статкевіча з Вялікаднем



У панядзелак 16 красавіка Баранавіцкія грамадскія актывісты наведалі Віктара Паўлавіча Статкевіча – бацьку экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча.

Госьці найперш павіншавалі Статкевіча-старэйшага з Вялікаднем, пажадалі моцнага здароўя, пачаставалі яго вялікоднымі стравамі і пажадалі найхутчэйшай сустрэчы з сынам Мікалаем.

За кубачкам гарбаты гаварылі з Віктарам Паўлавічам пра вызваленне Андрэя Саннікава і Зміцера Бандарэнкі, пра магчымыя вызваленні астатніх.

Статкевіч-старэйшы вельмі перажывае, што Мікалай некалькі месяцаў знаходзіўся ў камеры з хворым на сухоты, што цяперашні яго сукамернік – былы афіцэр спецназу. Разам прачыталі вялікоднае віншаванне Мікалая, дасланае бацьку 9 красавіка 2012года.

Дарэчы, Мікалай Статкевіч паведамляе, што апошні ліст да бацькі яму вярнулі назад і паведамілі, што пісьмо не прайшло цэнзуру з-за "цынічных" выказванняў.

Мікалай Статкевіч паведамляе ў вялікоднай паштоўцы, што некалькі разоў перачытваў гэты ліст, але так і не знайшоў там цынічных меркаванняў

Аляксей Пузікаў

# "ВЯСНА" АДЗНАЧАЕ 16-Ю ГАДАВІНУ ДЗЕЙНАСЦІ

*Працяг з ст. 1.*

занялася зборам і распаўсюдам інфармацыі, а таксама матэрыяльнай дапамогай: мы шукалі грошы, прадукты харчавання для тых, хто сядзеў па крымінальнай справе і на "сутках". У прыватнасці, адзін чалавек перадаў нам харчы і мы потым іх раздавалі сем'ям рэпрэсаваных. Гэта было не так шмат, але – чым маглі... Гэтая група працавала прыкладна месяц.

"Закручванне гаек" у той час ішло па розных накірунках. Напачатку красавіка быў затрыманы і сядзеў у СІЗА Славамір Адамовіч. Узнікла патрэба ў дапамозе яму, бо ягоная маці, пенсіянерка, сама не спраўлялася. На адным з мітынгаў мы сабралі пэўную суму грошай і перадалі ёй – на перадачы для Славаміра.

Цэнтральным накірункам нашай працы стала дапамога ахвярам палітычных рэпрэсій і інфармаванне грамадскасці пра гэтыя рэпрэсіі. Усё рабілася на абсалютна добраахвотных пачатках. У той час я працаваў дырэктарам літаратурнага музея Максіма Багдановіча, быў сакратаром Управы БНФ. Улічваючы, што тады Фронт быў асноўнай актыўнай вулічнай сілай, найбольш ахвяраў было якраз сярод сяброў БНФ.

У 97-м годзе да гэтай працы далучыліся некалькі дзяўчат-валанцёрак з ліку супрацоўніц музея – напрыклад, Паліна Сцепаненка. Паступова мы пашыралі сваю працу і пачалі шукаць кан-




такты ў рэгіёнах, таму што рэпрэсіі разгарнуліся па ўсёй Беларусі. Нам патрэбны былі людзі, гатовыя працаваць у праваабарончым накірунку па ўсёй краіне, і на працягу 97-га года мы фактычна адбудавалі рэспубліканскую структуру. 23 лютага 1998 года мы зарэгістравалі "Вясну-96" як мінскую гарадскую арганізацыю і адначасова рыхтавалі дакументы для стварэння нацыянальнай. У 1999 годзе "Вясна" была зарэгістравана як арганізацыя рэспубліканская і ў такім статусе існавала да 2003 года, калі рашэннем Мінюста і Вярхоўнага суда яна была зачынена за ўдзел у назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі 2001 года. З тых часоў працуем без рэгістрацыі".

Сваё 16-годдзе арганізацыя адзначае выхадам кнігі "Наша Вясна" - гэта гісторыя ў асобах. Ініцыятарам выдання з'яўляецца Алесь Бяляцкі.

Як адзначаецца ў прадмове да выдання, "Усё, што не пакладзена на паперу, не зафіксавана – лічы, што яго і не было", – кажа ён. А на прыкладзе "Вясны" можна адсочваць важныя працэсы найноўшай гісторыі Беларусі: барацьбу за правы чалавека і дэмакратычныя каштоўнасці, супрацьстаянне асобы і аўтарытарызму, станаўленне і развіццё праваабарончага руху. Гэтая кніжка, па меркаванні Бяляцкага, таксама павінна быць адказам на шалёную дыскрэдытацыю праваабаронцаў, разгорнутую праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Хто на самой справе гэтыя людзі па сваіх перакананнях, каштоўнасцях і прафесіі, якія іх шлях да праваабароны і якой яны бачаць будучыню краіны – гэта таксама можна пабачыць з партрэтных інтэрв'ю, сабраных у гэтым выданні.

spring96.org

## Сябры перадалі музычнае віншаванне Алесю Бяляцкаму да 16-годдзя "Вясны" Акцыя ў дзень народзінаў Алеся Бяляцкага ля менскай «Валадаркі»



"Вясноўцы" павіншавалі свайго нязменнага кіраўніка з 16-ай гадавінай дзейнасці заснаванай ім арганізацыі. Песню пра вясну для Алеся перадалі праз «Радыё Магілёў», што вяшчае online і на хвалях 96,4 FM. У адным з сваіх лістоў Алесь напісаў сябрам, што гэтую радыёхвалю слухаюць у бабруйскай калоніі:

"З музыкі слухаю толькі тое, што перадаюць на "Радыё Магілёў". Гэта fm-радыё. Улічваючы, што шмат песень перадаюць па заяўках, то добра ўведаў музычныя густы Магілёўшчыны. Песьні амаль адныя і тыя ж. Але часам замаўляюць і ставяць "Кіно" і "Ляпісаў".

Спадзяемся, музычнае віншаванне дайшло да адрасата і спадабалася яму! Для Алеся прасілі песню, вядома ж, пра вясну, на што ды-джэй прапанаваў новую кампазіцыю гурта "Аёва".

spring96.org

# СПРОБА АДСТОЯЦЬ СПРАВЯДЛІВЫЯ ВЫБАРЫ ПРАЗ СУД


Мікалай Чарнавус у судзе г. Баранавічы і Баранавіцкага р-на

У панядзелак 4 красавіка Баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус накіраваў заяву ў суд Баранавіцкага раёна і г.Баранавічы, у якой прасіў прызнаць незаконнымі перавыбары Рады цэнтральнага кірмашу горада. У заяве паведамлялася, што ён раней пісьмова звяртаўся ў гарадскую і абласную пракуратуры са скаргай на дзеянні адміністрацыі Баранавіцкага цэнтральнага кірмашу. Актывіст патрабаваў пракурорскага рэагавання на тое, што новая Рада была выбрана не агульным сходам прадпрымальнікаў, а прызначана адміністрацыяй каапрынку. Абсалютная большасць прадпрымальнікаў не толькі не ведала пра месца і час, але і не была запрошана на гэты сход.

– Пракуроры Баранавіцкага раёну Грушэўскі А.В. і Брэсцкай вобласці Точка А.Т. не выканалі сваіх абавязкаў і ўхіліліся ад адказу па сутнасці пастаўленых пытанняў. Таму я вырашыў звярнуцца ў Баранавіцкі гарадскі суд, каб ён адмяніў вынікі "выбараў" Рады кірмашу 18-20 снежня 2011 года і абавязаў адказніка вярнуць мне кошт дзяржаўнай пошліны ў памеры 105 тыс. рублёў, – патлумачыў Мікалай Чарнавус.

Аднак Баранавіцкі прадпрымальнік Мікалай Чарнавус 5 красавіка атрымаў з гарадскога суда вызначэнне аб адмове ва ўзбуджэнні справы.

Разгледзеўшы матэрыялы справы па скарзе сп. Чарнавуса, суддзя Жукава Т.Ю. адмовіла прадпрымальніку ва ўзбуджэнні справы ў сувязі з непадсуднасцю яе суду Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы. Суддзя пісьмова патлумачыла заяўніку, што з такой скаргай яму трэба звяртацца ў Брэсцкі абласны гаспадарчы суд.

## Судовае кола замкнулася

У панядзелак 9 красавіка Брэсцкі абласны гаспадарчы суд адмовіў у разглядзе скаргі баранавіцкага прапрымальніка Мікалая Чарнавуса адносна незаконнасці выбараў кіраўніцтва каапрынку ў Баранавічах. Пра гэта 6 красавіка 2012г. заявіла прадпрымальніку дзяжурны суддзя, калі Мікалай Чарнавус асабіста хацеў зарэгістраваць сваю заяву. Суддзя яму так і сказала: "Мы выбарамі на Баранавіцкім каапрынку займацца не будзем".

Вось цяпер і Брэсцкі абласны гаспадарчы суд адмовіўся разглядаць праблему выбараў на Баранавіцкім каапрынку. Судовае кола замкнулася. Мікалай Чарнавус скардзіўся ў Баранавіцкі гарвыканкам, звяртаў увагу раённага і абласнога пракурораў на незаконнасць выбараў, хацеў праз суд дабіцца праўды, а вынік – нулявы. Замест стваральнай працы, грамадскаму актывісту прыйшлося вандраваць па чыноўніцкіх кабінетах.

Пасля гэтага Мікалай Чарнавус 11 красавіка накіраваў скаргу ў Брэсцкі абласны суд на суддзю Жукаву Т.Ю., якая 4 красавіка адмовілася разглядаць скаргу, датычную незаконных "выбараў" Рады кірмашу на Баранавіцкім каапрынку. Прадпрымальнік тлумачыў суду, што мясцовыя ўлады і ўладальнік кірмашу не могуць удзельнічаць у правядзені выбараў – гэта можа рабіць толькі агульны сход прадпрымальнікаў, які не быў праведзены.

## Брэсцкі абласны суд ацэніць законнасць дзеянняў суддзі

У чацвер 26 красавіка Баранавіцкі прадпрымальнік Мікалай Чарнавус атрымаў судовую позву, у якой паведамляецца, што Брэсцкі абласны суд 15 мая разгледзіць яго скаргу на суддзю Баранавіцкага гарадскога суда Т.Ю.Жукаву.

Час пакажа, які будзе вынік змагання за Праўду.

Сяргей Законнікаў

## Баранавіцкая грамадскасць павіншавала палітвязняў




Віншаванні на прыгожых святочных паштоўках у пятніцу 6 красавіка даслалі палітвязням баранавіцкія актывісты. Грамадскія актывісты і неабыякавыя жыхары гарадоў і мястэчак гэтымі днямі дасылаюць свае віншаванні ў турмы і калоніі Беларусі, каб падзяліцца часцінкай той радасці хрысціянскага свету, якая можа падтрымаць у цяжкі час усіх, хто будзе сустракаць светлае свята Уваскрэсення Хрыстовага ў зняволенні, дзе апынуліся па палітычных матывах.

Прыгожыя святочныя паштоўкі палітвязням даслалі баранавіцкія актывісты.

"Мы стараемся віншаваць іх з усімі вялікімі нашымі святамі і нават без нагоды дасылаць лісты падтрымкі. Найчасцей нам піша свае адказы Мікалай Статкевіч з удзячнасцю за падтрымку яго бацькі, - распавядае старшыня гарадской суполкі АГП Анжаліка Камбалава. - Праўда, адказы прыходзяць не ад усіх палітвязняў. А вось лісты з віншаваннем да Дня Волі, дасланыя Мікалаю Аўтуховічу, з Івацэвічскай турмы вярнуліся. На канвертах было пазначана, што ён выбыў адтуль. Цяпер мы ўжо ведаем, што Мікалай Аўтуховіч знаходзіцца ў гарадзенскай турме, куды і даслалі яму свае вялікодныя віншаванні. Усім нашым змагарам мы пажадалі здароўя, найхутчэйшай свабоды і радаснай сустрэчы з роднымі і сябрамі".

Віктар Смоўж

веснік ПРАВААБАРОНЧЫ



## У Баранавічах ужо пятая з пачатку года забарона пікета




Грамадскі актывіст Рыгор Грык 9 красавіка 2012г. атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дзмітрыя Касцюкевіча, у якім паведамляецца, што Баранавіцкі гарвыканкам, кіруючыся Законам Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997 № 114-З "Аб масавых мерапрыемствах" (у рэдакцыі Закона РБ ад 08.11.2011 № 308-З), не дае згоды на правядзенне пікета 15 красавіка ў старым парку горада.

Праўда, якую норму закона парушыў заяўнік, супрацоўнік ідэалагічнага аддзела гарвыканкама Сяргей Пяцігораў традыцыйна адмовіўся назваць.

Падчас пікета Рыгор Грык хацеў выказаць маральную падтрымку іншадумцам і асуджаным за падзеі пасля прэзідэнцкіх паслявыбараў 19 снежня 2010 года.

Гэта ўжо пяты запар ў гэтым годзе пікет грамадскіх актывістаў, які не дазваляе Баранавіцкі гарвыканкам.

У пачатку 2012 годзе былі забаронены пікеты, якія планавалі правесці грамадскія актывісты Віктар Цяпін, Рыгор Дружынін і тройчы Рыгор Грык на розную тэматыку.

Аляксей Пузікаў

# В БАРАНОВИЧАХ ЗАКОНЧИЛОСЬ «СОЦИАЛЬНОЕ» МОЛОКО

Администрация Барановичского молочного комбината жалуется на убытки и отказывается делать нерентабельную продукцию.

В декабре 2011г. правительство Беларуси приняло постановление, согласно которому расширился список социально значимых товаров. Среди прочих в список «социальных» продуктов вошло молоко. Так, в течение нескольких месяцев Барановичский молочный комбинат условия постановления выполнял: здесь делали молоко жирностью 3,6%, стоимостью всего 2200 рублей и сметану в упаковке по 500 гр. жирностью 25% стоимостью 4800 рублей. Теперь же молочники подсчитывают убытки. Покупателям остается только вздыхать от высоких цен, передает «Еврорадио».

На Барановичском молочном комбинате факт прекращения выпуска так называемой «социальной» продукции подтвердили уже недели три назад.

«Эта «социальная» продукция - убыточна. Ну кто будет работать себе в убыток?», - задаются вопросом в администрации комбината.

Кстати, молочный комбинат г.Барановичи не единственный, кто отказывается делать «социальные» товары. Ранее Молодеченский молочный комбинат остановил производство «социальной» сметаны. По словам руководителя предприятия, потери при ее изготовлении достигли почти 60%. Теперь комбинат не выпускает уже и «социальное» молоко. Не выпускает «социальную» сметану и молоко и Борисовский молочный комбинат.




Интерестно, а почему же молчит по этому поводу Комитет госконтроля? Так кто виноват в том, что не выполняется постановление Совмина?

Кто же будет в конце концов учитывать интересы социально незащищенной части населения? Пенсии же не повышаются, а цены растут и растут.

Віктар Смоўж

## "Вясна" запрашае на прэзентацыю двух сваіх выданняў

2 траўня адбудзецца прэзентацыя адразу двух выданняў, падрыхтаваных Праваабарончым цэнтрам "Вясна": фотаальбома "За права на выбар: Партрэты асуджаных. Плошча-2010" і "Наша Вясна. Гісторыя ў асобах".

Героі фотаальбома "За права на выбар" - фігуранты крымінальнай справы, узбуджанай пасля акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. Год таму, на травень 2011 года, выдаўся пік "судзілішч" па гэтай справе, а ў выніку ўсяго былі асуджаны 42 чалавекі, некаторыя з якіх працягваюць і сёння ўтрымлівацца ў месцах пазбаўлення волі.

Выданне "Наша Вясна. Гісторыя ў асобах" прысвечана 16-гадовай гісторыі Праваабарончага цэнтра "Вясна" і складаецца з інтэрвью з актывістамі праваабрончай арганізацыі. Сярод іх – апошняе інтэрв'ю на волі нязменнага кіраўніка "Вясны" – Алеся Бяляцкага.

У межах прэзентацыі адбудзеца абмеркаванне сітуацыі з правамі чалавека на сучасным этапе і наяўнасцю палітвязняў у Беларусі.

У імпрэзе возьмуць удзел намеснік старшыні ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч, кандыдат гістарычных навук, рэдактар незалежнай газеты "Новы час" Аляксей Кароль, сябра Рады ПЦ "Вясна" Тацяна Рэвяка.

Мерапрыемства адбудзецца 2 траўня ў 18-00 у офісе Партыі БНФ па адрасу: Мінск, вул. Чарнышэўскага, 3 (уваход са двара). Усіх наведвальнікаў чакае падарунак.

Тэлефон для даведак (017) 331-08-44

spring96.org

"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"
Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
Калі парушаны вашыя правы, маеце пытаньні, заўвагі ці прапановы звяртайцеся
на тэлефон 8 029 722 09 57, альбо e-mail: viasna_bar@tut.by
Распаўсюджваецца бясплатна. Накалад 299 асобнікаў

веснік ПРАВААБАРОНЧЫ